Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 4000 м. п.

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **48.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 8000 мк., сярод тэксту 7000 м. і на 4 стр. 6000 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 13. Вільня, Пятніца, 28-га верасьня 1923 г. Год I.

## Як бараніцца?

Ніжэй мы друкуем мэморыял сэнатара Седлецкага на імя старшыні ураду, Вітаса, аб тых страшэнных крыўдах, якія церпіць беларускае сялянства на Палесьсі.

Мэморыял, *напісаны палякам*, мае асаблівую вагу: яго нельга зганіць закідам аднабокасьці, ці варожасьці да Польшчы, як тое робяць у нас з усімі беларускімі мэморыяламі і скаргамі, што знаходзяць для сябе добрую схоўку ў габінэтах міністраў... „пад сукном"! Па зьместу-ж мэморыял сэнатара Седлецкага мог-бы служыць прадметам разгляду Лігі Народаў: столькі тут характэрных матар'ялаў да сьцьверджаньня даўно ўсім вядомага факту, што для „меншасьцяў" у Польшчы законы істнуюць толькі... на паперы!

Ня будзем ашуківаць сябе пустой надзеяй, каб мэморыял і апісаньне зьдзекаў улады над паляшукамі далі якія-колечы вынікі. На перасьцярогу польскага сэнатара, што, калі ў найхутчэйшым часе ўлада ня зьменіць сваей палітыкі, дык могуць здарыцца зусім неаблічальныя выпадкі, сучасны ўрад даў ужо напярод адказ: ня толькі ніякіх перамен на лепшае ня будзе, а, наадварот, пан міністар Гломбіньскі, так сказаць, „эндэцкі прэм'ер", каб узмацаваць „націск" на няпольскае насяленьне „kresów wschodnich", заклікае сабе на падмогу ўсё польскае грамадзянства, ладзючы так званы „wielki tydzień kresowy".

У такі мамэнт, калі ўсе ўрадовыя і грамадзкія сілы Польшчы арганізуюцца дзеля „крыжавога паходу" на Беларускія і Украінскія землі, далучаныя да Польскае Рэспублікі,—беларускае грамадзянства, усе жывыя беларускія сілы павінны згуртавацца і прыгатавацца дзеля дружнага адпору новаму наскоку на нас. I тут мы павінны браць прыклад з нашых ворагаў.

Польскае грамадзянства арганізуецца *дзеля „абароны" польскасьці* „na Kresach Wschodnich".—Мы павінны арганізавацца *дзеля запраўднае абароны беларускасьці на Беларускай зямлі.* I цяпер гожа было-бы правясьці ў жыцьцё думку аб агульна-беларускім зьезьдзе Заходняе Беларусі, які-бы і правёў так патрэбнае нам аб'яднаньне нашых сіл. Заняцца гэтым мог-бы Беларускі Нацыянальны Камітэт, які толькі-што абнавіў свой склад і свой прэзыдыум.

Польскае грамадзянства *зьбірацьме грошы* на гэны „крыжавы паход" проці беларусаў і украінцаў, бо бяз грошы цяжка „рабіць палітыку".—Мы тым больш павінны напружыць свае сілы ў тым-жа кірунку, павінны ўладзіць *збор ахвяр на фонд нацыянальнае самаабароны*, заклікаўшы да гэтага наагул усіх беларусаў, дзе-б яны ні знаходзіліся, а перад усім нашу амэрыканскую эміграцыю. Мо' нават бесьпячней было цэнтр працы ў гэтым кірунку закласьці ў Амэрыцы, бо „канстытуцыйныя гарантыі" ў Польшчы для беларусаў дужа няпэўныя....

Урэшце, пад той час, як польскі ўрад зусім афіцыяльна—ў асобе міністра Гломбіньскага—ўзяў ня сябе кіраваньне паходам „na kresy" і адкрыта павёў проці беларусаў і украінцаў польскі „культуркампф" (па прыкладу нямецкіх гакатыстаў), беларуская эміграцыя ў Заходняй Эўропе павінна ўзяць на сябе абарону беларускага насяленьня ў Польшчы на грунце Лігі Народаў. Маюць-жа жыды сваіх неафіцыяльных прадстаўнікоў пры Радзе Лігі Народаў у Жэневе, з якімі Ліга вельмі паважна рахуецца, як гэта прызнае нават „Dziennik Wileński". Вось, у Жэневе павінна быць утворана такое-ж беларускае прадстаўніцтва, і гэты абавязак ляжыць на выэміграваўшых заграніцу сябрах Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, што сядзяць няма ведама чаго ў Коўні, ці ў Бэрліне.

Так, мы не павінны абмяжовывацца толькі нараканьнем на ўціск нашага народу польскай дзяржаўнай уладай і грамадзянствам, а павінны *арганізаваць самую дзейльную абарону сваіх правоў*, карыстаючыся *усімі спосабамі, якія*—прынамся на паперы — *дапускае і для нас польская канстытуцыя.*

**Ст. Мірскі.**

## Палажэньне на Палесьсі у асьвятленьні польскага сэнатара.

Сэнатар Седлецкі выслаў да Старшыні Міністраў п. Вітаса гэткі мэморыял:

Ссылаючыся на размову ў часе прыняцьця дэпутацыі грамадзян—сялян з Палесься, якую я прадставіў п. прэзыдэнту разам з паслом Воліцкім 18 верасьня, высьвятляю вось што:

Палескі селянін—надта бедны. Уладае зямлёю з выкарчаваных палянак, раскіданых часта у колькідзесяцёх кавалках сярод балотаў і лясоў, якія належаць да двароў.

1) Расейскі ўрад, надзяляючы сялян у т. зв. паўночна-заходнім краі, пасьля скасаваньня паншчыны аддаў селяніну на ўласнасьць зямлю, якую ён абрабляў у часе паншчыны, а так-жа даў яму права „сэрвітуту" на „панскім". Селянін меў права пасьвіць на дворскіх абшарах свае быдла і зьбіраць дрэва на апал, грыбы і ягады ў лесе. На Палесьсі з прычыны нізкай зямельнай культуры як двароў, так і вёсак, сэрвітуты засталіся бадай усюды ня выкупленымі і сэрвітутнае права абавязвае яшчэ і цяпер ува ўсей паўнаце.

2) У часе вайны абшарнікі ўсе ўцякалі з Палесься, аддаючы дворную зямлю сялянам у арэнду „на трацяк".

3) Сойм Польскай Рэспублікі ухваліў зямельную рэформу, даючы магчымасьць сялянам (незалежна ад таго на якой мове яны гавораць) набываць дворную зямлю.

Што-ж бачым у апошніх часах?

1) Што да зямельнай рэформы палескі селянін бачыць што раз выразьней, што яна зьяўляецца папяровым правам і ён нічога ад гэтага не атрымоўвае.

2) Абрабляная ў працягу 5-7 гадоў „на трацяк" дворная зямля ў яго адбіраецца абшарнікамі, паміма таго, што ён уложыў у яе шмат працы на яе паляпшэньне, хоць у форме удабрэньня яе гноем, адбіраецца зазвычай грубым спосабам.

3) Бяспрэчнае сэрвітутнае права абшарнік папросту перачырківае такім спосабам, што забараняе селяніну пасьвіць на дворным, зьбіраць у лесе дровы, грыбы і ягады, а калі селянін ня слухае (*а ён на гэта мае права*), падае на суд і *суд засуджвае селяніна ў вастрог, альбо плаціць штраф.* Зазначу, што сяляне лічаць гэтыя суды за бяспраўныя і не зьяўляюцца ў суд, а суд выдае завочныя прыгаворы.

Гэта найважнейшыя пытаньні палескай вёскі.

З аднаго боку селянін усё губіць больш надзею, што атрымае штось-ці на падставе ўставы аб зямельнай рэформе. З другога боку гвалтам, з застасаваньнем грубых спосабаў траціць правы і карысьці, набытыя ў часе вайны (трацякі).

Нарэшце з *жахам бачыць, што ад яго ў Польшчы адбіраюць бяз ніякага адшкадаваньня сэрвітутнае права, якое набыў 60 гадоў пад уладай Расеі.*

Гэткім спосабам робіцца ўсё, каб варожа настроіць насяленьне Палесься проціў Польшчы.

Міністэрства Публічных Работаў у гэтых забытых ад Бога і людзей закутках нічога бадай ня робіць для адбудовы зьнішчаных гарадоў і вёсак.

Зямельны Урад (Мініст. Зям. Рэф.) зусім ня выпаўняе ўставы аб зямельнай рэформе, пазваляючы банкам і парцэляцыйным суполкам весьці скіраваную проціў інтарэсаў мяйсцовай люднасьці парцэляцыйную акцыю.

Міністэрства Асьветы вядзе акцыю „powszechnego" абучэньня праз вучыцялёў, *якія ня знаюць ані мовы, ані мяйсцовых адносінаў, у такі спосаб, што адпужвае насяленьне ад мовы і культуры польскай.* (Адначасна за кардонам радавы ўрад Беларусі выдае цыркуляр, які вымагае ад усіх урадоўцаў, каб здалі экзамін з беларускай мовы).

Нарэшце Міністэрства Унутраных спраў ня дбае аб адпаведным падборы адміністрацыі, пазваляе паліцыі на сыстэматычнае біцьцё насяленьня, не перашкаджае ўзяткам, а адначасна ня ўмее сьцерагчы граніцы бальшавіцкай, пазваляе многім бандам бяскарна грасаваць па краю, выклікаючы ў люднасьці ўражаньне няздольнасьці паліцэйскіх уладаў.

Дадам, што паліцыя знаходзіцца заўсёды на паслугах абшарнікаў бяз розьніцы нацыянальнасьці проціў сялян.

Гэткае палажэньне рэчаў, якое ў апошнія часы ўсьцяж пагаршаецца, прымусова пхае лёяльнае, а нават адданае дзяржаве насяленьне ў абоймы антыдзяржаўнай агітацыі.

Паскольку ў найхутчэйшым часе не наступяць зьмены, могуць быць неаблічальныя пасьледствы.

**Станіслаў Седлецкі,**
сэнатар.

## Ува усім вінны работнікі.

Міністар прамысловасьці і гандлю п. Шыдлоўскі на сабраньні, зарганізаваным праз Львоўскую гандлёва-прамысловую палату, паміж іншым сказаў, што:

> „прамысловая вытворчасьць ужо дасягае да нормы перадваеннай, а ў шмат якіх галінах ужо правышае яе.
>
> Аднак прамысловасьць чакаюць вялікія труднасьці, бо работніцкія платы дасягаюць (?!!) ужо перадваеннай вышыні, у той час, як прадуктыўнасьць іх працы яшчэ на 30 % ніжэйшая, чым перад вайной.

Як далёка разыходзяцца з праўдай словы пана міністра лёгка пераканацца хаця-б з такога параўнаньня:

Работнікі-мэталісты перад вайною зараблялі каля 2 руб. ў дзень, г. зн. 50-60 руб. альбо 25-30 доляраў у месяц, што на польскія маркі выносіць 8-10 мільёнаў; цяпер-жа той работнік зарабляе ня больш 4-5 мільёнаў, значыць ня болей 50 % перадваеннай нормы. Ткачы перад вайной зараблялі 40-45-50 руб. у месяц, знача 20-25 доляраў ці на маркі $6^{1}/_{2}$-8 мільёнаў, а цяпер заработная плата ткача не правышае 3-4 мільёнаў марак польскіх у месяц. Значыць таксама ня больш 50 % перадваеннага заработку. Мы ўзялі якраз тыя катэгорыі работнікаў, якія знаходзяцца ў адносна лепшых варунках, іншыя групы работнікаў зарабляюць шмат менш. Дык дзе-ж праўда ў словах п. Шыдлоўскага?

З другога боку аб прадуктыўнасьці працы работнікаў пан міністар пярэчыць сам сабе. Бо як можна ўзгодніць цьверджаньне, што прадуктыўнасьць працы на 30 % меншая, чым перад вайной з цьверджаньнем таго-ж міністра, што прамысловая вытворчасьць ня толькі дасягае перадваеннай, а нават у шмат якіх галінах правышае перадваенную норму?

Усё гэта проста цынічная фальш, на якую мог здабыцца чалавек, які ў інтарэсах фабрыкантаў пазваляе сабе на розныя выдумкі.

# Палітычныя падзеі.

## Крызіс дзяржаўнага ладу.

Пад той час, як, сьледам за Італіяй, Гішпанія робіць *фашыстаўскі пераварот*, а Польшча да яго падгатаўляецца,—у Нямеччыне сур‘езна баяцца *камуністычнае рэвалюцыі*, для якое Францыя сваей дзікой палітыкай прыгатавала вельмі добры грунт. А побач з гэтым выбухае такая-ж *камуністычная рэвалюцыя* ў Баўгарыі і Сэрбіі.

Няма ведама, чым гэтыя выбухі скончацца. Мо‘ яны будуць здушаны і ў Нямеччыне, і ў Балканскіх краінах. Але ўсе гэныя факты як рэвалюцыяў „фашыстаўскіх“, „правых“, так і левых, „камуністычных“, дужа ярка сьведчаць аб тым, што дзяржаўны лад у гаспадарствах сучаснае Эўропы—гэта нешта дужа нямоцнае, няпэўнае, зьменнае. Вось жа цераз тыдзень пасьля перамогі фашыстаў у Гішпаніі адтуль ідуць тэлеграмы, з якіх відаць, што ўлада генералаў-фашыстаў—вельмі няпэўная, і магчыма далейшае разьвіцьцё рэвалюцыйных падзеяў.

Можна сказаць, што Эўропа перажывае востры крызіс дзяржаўнага ладу, і тыя крайнія формы, што на мамэнт пераважаюць то тут, то там, ня маюць яшчэ пад сабой даволі падгатаванага грунту. Але той лад—так-званы „дэмакратычны“, прыкладам якога можа служыць Польшча, таксама нікога не здаваляе, і іменна ў Польшчы ўсё ждуць нейкае зьмены ўлады ці то ў кірунку направа, ці налева.

Гэты крызіс вельмі блага адбіваецца на ўсенькім жыцьці дзяржаваў Эўропы, а асабліва на іх эканамічных справах. І трэба думаць, што ён трываць ня можа. Вось, дзеля чаго тыя рэвалюцыйныя выбухі, аб якіх паказываюць тэлеграмы, трэба лічыць запаведзяй блізкага разьвязаньня крызісу. У які-ж бок—пакажа само жыцьцё, якое і павіна вытварыць нейкую больш трывалую, больш поўна здаваляючую патрэбы народаў форму дзяржаўнага істнаваньня.

**Аль.**

## Як падаваць скаргі у Лігу Народаў.

Падаем зьмест надта важнай рэзалюцыі Рады Лігі Народаў ў справе *працэдуры* скаргаў нацыянальных меншасьцяў, гэта значыць,—як трэба праўна падаваць гэтыя скаргі і ў якім парадку яны праходзяць праз Лігу Народаў.

Каб гэтыя скаргі разглядаліся ў Лізе Народаў на падставе рэзалюцыяў Рады 22 і 25/IX 1920 г. і 27/VI, яны: —

1) павінны быць згодны з прынцыпам абароны правоў меншасьцяў, які ляжыць у аснове адпаведнай умовы; (для меншасьцяў у Польшчы гэта—дадатковы Трактат паміж Польшчай і Антантай 28/VI.);

2) не павінны дамагацца зьнясеньня палітычнага стасунку паміж данай меншасьцяй і той дзяржавай, да якой яна прылучана;

3) не павінны пасылацца ў Лігу бяз подпісу, ці з подпісам якіхсь няведамых, ці безадказных установаў;

4) павінны быць напісаны ў карэктных выражэньнях;

5) павінны зьмяшчаць такія факты, датыкацца такіх рэчаў, аб якіх не гаварылася ўжо да таго ў скаргах ўжо разгледжаных у Лізе і адкінутых праз яе.

Скаргі, якія здаволіваюць ўсе гэтыя вымаганьні, будуць разглядацца ў Радзе Лігі.

Калі зацікаўленая дзяржава заявіць з тэй ці іншай прычыны спраціў каб скарга разглядалася, тады старшыня Рады, па дакладу генеральнага сэкрэтара Лігі, перадае пытаньне—мае слушнасьць гэты спраціў, ці не,—двум сябрам Рады на разгляд.

У кожным разе зацікаўленая дзяржава можа дамагацца, каб гэтая справа (аб яе спраціве) была перадана ў агульнае Сабраньне Лігі.

Зацікаўленая дзяржава павінна ў *двухмесячны тэрмін* адказаць у Радзе на скаргу на яе тэй ці іншай меншасьці; але старшыня можа прадоўжыць гэты тэрмін і далей, калі яна (дзяржава) прадставіць довады просьбы.

Скаргі ці пэтыцыі (просьбы) можна перасылаць толькі праз сябраў Рады.

Па жаданьню зацікаўленых дзяржаваў, ці па рашэньні Рады, даклад аб гэтым спраціве можа быць даны для ведама і іншым сябрам Лігі, а нават агалошаны ў прэсе.

Старшыня і двое сябраў Рады разглядаюць скаргу меншасьцяў і адказы зацікаўленых дзяржаў ці ўрадаў—*толькі дзеля таго, каб устанавіць, ці трэба зьвярнуць увагу аднаго ці больш сябраў Рады Лігі на пагвалчэньне правоў той ці іншай меньасьці.* Гэтая рэзалюцыя даводзіцца да ведама ўсіх дзяржаваў, якія падпісалі абязацельства сьцерагчы правоў меншасьцяў, ці зрабілі адпаведныя дэкляpацыі.

Як бачым, Рада Лігі надзвычайна далікатна сьцеражэ правы пагвалчаных меншасьцяў, даючы, у разе сьцьверджанага гвалту, „права зварочаньня ўвагі“ на гэта кожнаму сябру Рады.

Але ня менш, калі ня больш, далікатна Рада адносіцца і да зацікаўленай дзяржавы, якая можа два месяцы цягнуць адказ, а калі старшыня дазволіць, дык можа йшчэ са два..., можа дамагацца нават, каб скарга зусім не разглядалася... Нават і ў разе сьцьверджаньня гвалту сябры Рады Лігі аб гэтым пагавораць толькі паміж сабой: адзін другому „зьвярне ўвагу на на пагвалчаньне правоў меншасьці“...

## ПОЛЬШЧА.

У Львове распачалася забастоўка гарадзкіх работнікаў. Замест бастуючых работнікаў ужыта войска.

---

У Варшаве адбыўся вялікі мітынг працаўнікоў почты, тэлеграфу і тэлефону пры ўчасьці дэлегатаў ад усей Польшчы і старшыняў акружных арганізацыяў. У прамовах аратары сьцьвердзілі нэндзнае палажэньне пачтавікоў, якое зьяўляецца вынікам урадовай эканамічнай палітыкі. Выстаўлены дамаганьні дзяржаўных служачых, аб якіх мы пісалі ў папярэднім нумары. У выпадку невыпаўненьня праз урад усіх дамаганьняў да 5-га кастрычніка, ухвалена распачаць забастоўку.

---

Дарагоўля ў Польшчы прымае пагражаючыя разьмеры. Усюды адбываюцца мітынгі процiў дарагоўлі. У Кракаве на мітынгу дзяржаўных працаўнікоў і саюзу інтэлігенцыі прыняты рэзалюцыі з жаданьнем бедадноснай барацьбы з дарагоўляй і арыштаў спэкулянтаў. Падобныя рэзалюцыі прыняты і на мітынгах саюзу вучыцялёў і P. P. S.

### Працэс украінскай „баёўкі“.

22-га верасьня распачаўся перад судом прысяжных у Львове працэс 9-х украінцаў, якія абвінавачываюцца ў стварэньні баёўкі, якая зрабіла ў 1922 г. рад забойстваў і „актаў сабатажу“.

Адзін з галоўных абвінавачаных Дзікоўскі, які памог забіць калісь вядомага рэдактара Твердохліба (нешта ў родзе „нашага“ Аляксюка), здалеў уцячы з турмы...

Але перад тым, каб уцячы, ён расказаў на паліцэйскім дазнаньні, як перадае Аг. Усх., надзвычай сэнсацыйныя падробнасьці аб арганізацыі тайных баёвак, якія працавалі ў Галіччыне з даручэньня ўраду Петрушэвіча.

Акт абвінавачаньня закідае падсудным забойства Твердохліба, перарэзываньне тэлеграфных дротаў , падпаліваньне, забойствы войтаў, замах пры помачы бомбаў па паліцэйскі пастарунак у Стрыю. Акт абвінавачаньня прачытаны быў на *дзьвёх мовах* — польскай і украінскай. Працэс працягнецца са 2 тыдні.

Справа—як дзьве каплі вады—падобна да Беластоцкай аб беларускай „баёўцы“ Шыманюка, „працаваўшай з даручэньня ўраду Ластоўскага“...

Толькі там Шыманюк, які таксама „здалеў уцячы“, адкрыў паліцыі „сэнсацыйныя падробнасьці“ ня ў *вусным* паказаньні, але ў „дакумэнтах“ сваей „канцэлярыі“, якую адкрыў уладзе яго бліжэйшы памоцнік.

## НЯМЕЧЧЫНА.

У Нямеччыне зноў распачаліся забурэньні. З розных мясцоў надыходзяць весткі аб спатычках паміж камуністамі і нацыяналістамі. Крывавыя спатычкі мелі месца паміж іншым у Мюнхэне, Лейпцыгу, Дрэздэне, Глівіцах. У Дрэздэне застрэлены правадыр работніцкай дэмонстрацыі. У Мюнхэне дайшло да бойкі паміж фашыстамі і левымі партыямі; у часе стрэляніны забіта адна асоба.

---

На адбыўшымся зьезьдзе павятовых арганізацыяў соцыял-дэмакратаў выявіўся раскол сярод гэтай партыі. Некаторыя арганізацыі дамагаюцца выхаду партыі з урадовай коаліцыі. Нямецкая народная партыя і дэмократычная таксама ня зусім задаволены палітыкай Штрэзэмана.

---

Канцлер Штрэзэман адбыў конфэрэнцыю з прадстаўнікамі палітычных партыяў з акупаванага абшару, на якой заявіў, што ўсе высілкі ўраду, каб дабіцца ўзвароту сувэрэных правоў Нямеччыны ў Надрэніі і звальненьня арыштаваных праз акупацыйныя ўлады і г. д. ня далі ніякіх вынікаў. Канцлер высказаўся за спыненьне пасыўнага спраціўленьня.

---

На сабраньні соц.-дэмакр. у Дрэздэне ўхвалена гэткая рэзалюцыя: „Сабраньне заяўляе, што прэзыдэнт рэспублікі Эбэрт ня мае права заставацца ў радох аб‘яднанай соцыял-дэмакратыі. Соцыял-дэмакрат, які выступае ў абароне рэакцыйнага міністра Гэсьлера, ня можа прэтэндаваць на тытул таварыша“.

## ФРАНЦЫЯ.

Пуанкарэ ў сваей прамове ў часе адкрыцьця памятніка забітым у часе вайны паміж іншым сказаў, што хаця нямецкі ўрад зьмяніў сваю тактыку, але непаразуменьне яшчэ не зьліквідавана. Мір установіцца толькі тады, калі немцы згодзяцца направіць прычыненыя імі шкоды. Спраціўленьне, якое падтрымліваў нямецкі ўрад і якое шмат яму каштавала, пАступова спыняецца. Урад Нямеччыны пагражае магчымасьцю нацыяналістычнай і бальшавіцкай рэвалюцыі, але Францыя ня дасьць сябе стэрорызаваць. Францыя забясьпечана перад усялякімі дыктатурамі. Нямецкая Рэспубліка ня мае яшчэ раўнавагі і атрымае яе толькі тады, калі пераканаецца, што Францыя імкнецца толькі да лёяльнага выпаўненьня Вэр-

---

# Чырвоныя рожы.

ЗЬЯВА IV.

**Вольскі**—адзін.

Навошта кроў? Калі я гляджу на свае пышныя, сакавітыя чырвоныя рожы, мне здаецца, што я знаходжу страшны адказ.

Гэта было даўно, даўно—ў дні маей маладосьці і творчага настрою. У рэзьнікоў скупліваў я тады кроў зарэзанае скаціны і цэлымі вёдрамі ліў яе на грунт пад рожы. Кроў была густая, чарнаватая, запечаная. Людзкая кроў—весялейшая... Фу, якое брыдкое слова я сказаў! Я хацеў сказаць, што людзкая кроў і па выгляду павінна быць лепшаю, чысьцейшаю... Але мой садоўнік, стары Мацяйчук, часам казаў, загіпнатызаваны нявіданаю раней масаю крыві, сумны ад яе віду, расстроены, млеючы ад яе цяжкага паху, казаў так: „Вось і чалавек... жыве, жыве—дый памрэ!“

Тады яго словы не приставалі к майму сэрцу, не лажыліся цяжкім каменем на душу... Але цяпер!.. Божа! Я ня хочу параўнаваньняў, але прашу цябе... (Узьнімае рукі ў гару). Прашу цябе: не дапусьці! забарані! (Задумаваецца).

Ад тэй жудаснай для мяне цяпер паліўкі — белыя, пажаўцелыя і нашчыя рожы рабіліся пышнымі, сакавітымі і чырвонымі, як сама кроў... (Нэрвова махае рукамі, быццам адпіхае ад сябе рожы на стале, і закрывае вочы далоньню).

Можа, яно так і трэба... Але, пане найвышэйшы, не дапусьці, забарані! (Панурана схіляецца). Вось яны буйныя, раскошна-аксамітавыя, дзіўна-араматныя крывавыя рожы, узгадаваныя маёй думкаю, маімі рукамі на бедным, бяздольным грунце Беларусі. Ах, нашто, нашто? Гледзячы на іх тады, раней, у часе маладосьці, я адчуваў вялікую слодыч дасягнутага задаваленьня, мабыць, нешта падобнае да таго, што перажывае поэт і ўсякі творчы дух у часе запраўднай, вялікай творчасьці. Я любаваўся іх хараством, як чыста, ідэальна закаханы дзяцюк любуецца хараством любое, чыстае, ідэальнае дзяўчыны. Але цяпер яны мне пагадуюць, як і беднай маёй Марыньцы, кроў... Бедная мая Марынька, як і ўсе тыя, на чыю маладосьць і росьцьвет прыпадаюць стыхійныя разрухі ў агульным жыцьці ўсіх людзей.

Тады я ліў кроў на грунт, ня думаючы аб зарэзанай жывёле, з якой яна выцекла. А цяпер,—цяпер—я тая нешчасьлівая, невядомая рэвалюцыі жывёла. О Божа, божа наш! Госпадзі мой, госпадзі! Не дапусьці! забарані! Каб ні Казя, ні Марыня... Я ўжо стар, я ўжо магу пайсьці дабром на грунт, але й мой дух здрыгаецца ад жудасьці, ня хоча сьмерці. А яны-ж, дзеткі мае мілыя, яны маладые, яны ні ў чым не вінаваты. Божа! Не дапусьці! забарані! (Нейкі час маўчыць, тады з глыбокім болем пачынае гаварыць).

Ціха... Усё ціха. Толькі гдзесь, як-бы ля станцыі, увесь час ня сьціхае гармонік і людзкі шум... Дачны пасёлак Вольскае, створаны за трыццаць з лішкай гадоў вось гэтымі рукамі, з рэдкай і, можа быць, лішне раскошнай для беднай Беларусі культурай крывавых вольскіх рож, гэты пасёлак і сяньня сьпіць так, як спаў многа, многа начэй за тыя трыццаць з лішкай гадоў. Не, ня так... Раней пасёлак спаў, поўны сытага гультайства, дробненькага рамансаваньня і мяшчанскага задаваленьня прыезных з места багатых расейскіх чыноўнікаў і жыдоўскай гандлёвай буржуазіі, жраў, гуляў і распусьнічаў, выклікаючы захаваную да часу, глухую ненавісьць у галодных, убогіх навакольных вёсак. Вось дзеля чаго стварыў я свой культурны куток Вольскае! Вось дзеля каго й дзеля чаго расьціў я прыгожыя вольскія рожы! О, кара долі! Цяпер пахаванае, глухое сьмела выйшла з вёскі напаверх... (Прыслухаваецца да музыкі і п‘яных галасоў, якія ўсё бліжэй).

...Выйшла напаверх і з прагавітасьцю шукае спосабу памшчэньня. Час расплаты наступіў... Скрозь павіс страшны дух адмшчэньня за ўсе нашы вольныя і нявольныя грахі, скрозь шукаець ён крывавай стравы сваімі сьляпымі, няўмольнымі ад рэвалюцыйнага шалу вачмі. О божа! не дапусьці!

Выедзем заўтра, і мае крывавыя вольскія рожы, слаўныя на ўвесь край і за граніцаю, за колькі дзён будуць стоптаны і раздушаны нагою праезных трусоў, дэзэртыраў і п‘яных марадзёраў. І хай сабе. „Толькі ня трэба крыві“,—як кажа мая Марынька. Дзяўчынка мая ня хочаць яе інстынктыўна, я-ж не хачу яе затое, што ня веру... ня веру ў яе сьвятое прызначэньне... Ці можа і ўва мне гаворыць толькі боязьнь сьмерці, страх за свой ранейшы дабрабыт? Жыцьцё ёсьць змаганьне... Слабейшыя ўпадаюць і пояць сваёю кроўю грунт новай эпосе, новым людзём і ўчынкам. (Абрываець ляпёсткі і рассыпаець іх па стале, па зямлі).

Вось яна сыплецца кроў, кроў... Розум мой муціцпа... Ня маю веры, не, ня маю, не хачу... Гэта кроў рэзанае жывёлы... (Думае). Ах! Ці-ж не такая кроў з горла, з грудзей той хворай на сухоты беларускай настаўніцы?.. Ці-ж не такая кроў забітых, расстрэленых?.. Я ня ведаю, дзе праўда... Розум мой аслабеў. (Уздыхае). А не хачу! Ня трэба! Божа, зьмілуйся над намі,—ты, вышэйшы за наш розум, за нашы змаганьні, за нашае жыцьцё. Ты бясконцу міласьлівы... (Стук у дзьверы).

ЗЬЯВА V.

**Вольскі** і **слуга.**

**Вольскі.** Хто там?

**Слуга.** Я, пане. Тэлеграму прынясьлі... Расьпісацца трэба.

**Вольскі.** Увайдзі... Тэлеграма? Ад Казі?

**Слуга.** (Уваходзіць і падае тэлеграму і кнігу для расьпіскі). Паночку, пасыльны кажа, што п‘яныя салдаты бродзяць у пасёлку... Трэба тушыць сьвятло, каб часам у дом не ўламіліся...

альскага трактату. Францыя таксама хоча якнайхутчэй урэгуляваць справу адшкадаваньняў, але ня хоча несьці цяжараў, якія павінны лежаць на Нямеччыне. Ня прымем ніякіх варункаў, законяў Пуанкарэ, ня можам нічога больш ні дадаць, ні адняць ад нашых публічна абвешчаных жаданьняў.

## ШВАЙЦАРЫЯ.

У Швайцарыі павялічаны пагранічныя з Нямеччынай пастарункі. Швайцарскія ўлады робяць нарады кім спосабам забясьпечыць граніцу на выпадак дамашняй вайны ў Нямеччыне.

## БАУГАРЫЯ.

Рэвалюцыйны рух у Баўгарыі прыняў шырокія разьмеры. Работнікі і сяляне пад кіраўніцтвам камуністаў падняли паўстаньне проціў фашыстаўска-буржуазнага ураду Чанкова і ў шмат якіх мясцох захапілі ўладу ў свае рукі. Урад мабілізаваў усе сілы, каб задушыць рэвалюцыйны рух; шмат дзе дайшло да крывавых баёў; вялікія страты забітымі і раненымі панесьлі абедзьве стараны.

Р.А.Т. падае гэткія даныя аб палажэньні ў Баўгарыі: Камуністы, маючы на мэце захват улады, распачалі стараньні аб арганізацыі вайсковых аддзелаў. Устаноўлена, што рухам кіруе нейкі майёр Якаў, афіцэр рэзэрву, найбліжшымі яго супрацоўнікамі зьяўляюцца Дімітраў, Луканаў, Монтэляр і Коляраў—сэкрэтар з інтэрнацыяналу ў Маскве.

Аддзелы Якава мелі заданьнем захапіць Софію. Першая атака была скіравана на софійскі вастрог, з якога хацелі звольніць палітычных вязьняў, а асабліва правадыроў сялянскай партыі, каб хутчэй арганізаваць сялян. Ня гледзячы на тое, што ўрад распачаў энэргічныя шагі, каб задушыць паўстаньне, аднак некаторыя аддзелы камуністаў усё яшчэ праяўляюць сваю дзейнасьць. У самай сталіцы ўдалося ўтрымаць парадак; аб'яўлена асаднае палажэньне.

## ЮГАСЛАВІЯ.

З Белграду паведамляюць, што ў Сэрбіі распачаліся забурэньні, падобна як і ў Баўгарыі, кіраваныя праз камуністаў, якія маюць на мэце зваленьне ўраду і манархіі.

## ГІШПАНІЯ.

Мадрыцкі „El Socialista“, орган гішпанскіх сацыялістаў, у № ад 15 г. м. поўны белых плямаў—сьлядоў фашыстаўскай цэнзуры. Ваенны інспэктар заклікаў да сябе рэдактара „El Socialista“ і ўручыў яму загад, у якім пад пагрозай закрыцьця газэты і вастрогу забаранялася пісаць што-небудзь аб Мароко і палітычнай сітуацыі. На запытаньне рэдактара аб чымжа можна пісаць інспэктар адказаў, што можна пісаць аб усім, выключаючы Мароко і ўнутраныя справы, аб чым будуць прысылацца спэцыяльныя ўрадовыя камунікаты.

Кароль выдаў дэкрэт аб утварэньні асобнай гвардыі „Somaten„ („будзь на пагатове“), заданьнем якой зьяўляецца ўмацаваньне фашыстаўскай улады ў Гішпаніі.

## Эвакуацыя Корфу.

Ангельскі консул у Корфу атрымаў паведамленьне ад генаральнага італьянскага консула, што эвакуацыя Корфу праз італьянскія войскі адбудзецца 27 верасьня і ў гэты дзень італьянская адміністрацыя перадасьць уладу грэцкай.

## С. С. Р. Р.

У жніўні г. г. абвешчаны новы закон, якім касуюцца ўсялякія пашпарты, пасьведчаньні і г. д. Усякі грамадзянін мае права жыць там, дзе ён хоча, пераяжджаць, куды хоча і не абавязаны мець пашпарт, а ўлада ня мае права нікаго пытацца пра пашпарт, ці пасьведчаньне. Калі-б хто хацеў мець асабістае пасьведчаньне, дык улада павінна выдаць яго бясплатна тэрмінам на 3 гады.

## Украінізацыя Адэскай губ.

Пытаньне аб украінізацыі было пастаўлена ў Адэсе сур'ёзна толькі на апошнім пленуме губ. вык. камітэту. У тым, што вырашэньне пытаньня было так зацягнута, былі вінны ня толькі вышэйшыя савецкія ўстановы, але і нядбайнасьць жыхарства. Былі выпадкі, калі нізавыя савецкія ячэйкі на паперы, напісаныя на ўкраінскай мове, адказывалі парасейску. Нават у такой сялянскай акрузе, як Елісаветградзкая, на ўкраінскую мову перайшлі толькі райсаюз і „Сельгосподарь“. Вызначаўся вялікі недахват украінскіх культурных сіл, што значна перашкаджала ўкраінізацыі.

Уважаючы на такое становішча на мяйсцох, губ. вык. камітэт устанавіў канчатковы тэрмін украінізацыі дзяржаўнага апарату праз год.

У першую чаргу пераходзяць на ўкраінскую мову ўсе установы, маючыя непасрэдныя зносіны з вёскаю, як сельсаветы, вал. вык. камітэты, падатковы апарат, міліцыя. Прынята пастанова, каб з 1 верасьня на службу ў дзяржаўныя ўстановы прымаліся толькі асобы, уладаючыя ўкраінскаю моваю. Губ. аддзелу асьветы запрапанавана арганізаваць школы ўкраінскай мовы для ўсіх радавых служачых, якія павінны ў працягу году азнаёміцца з украінскаю моваю.

Асаблівая ўвага зьвернута на ўкраінізацыю школы. Пастаноўлена ў бліжэйшай будучыне давесьці сетку ўкраінскіх школ да разьмераў, адпавядаючых ліку ўкраінскага жыхарства.

Уважаючы на агульнае становішча і склад нізавога радавага апарату, трэба думаць, што ўсе намечаныя мерапрыемствы будуць праведзены гладка і бяз ніякіх непаразуменьняў.

## Сельска-гаспадарчая выстаўка ў Маскве.

Каштавала яна 15 міліёнаў залатых рублёў; гэта ёсьць 50% буджэту Народнага Камісарыяту Земляробства, 1% усяго буджэту Сувязі Радавых Рэспублік. Працавала на выстаўку каля 16.000 чалавек. Экскурсантаў мае быць 500.000 чалавек. За першыя 20 дзён выстаўкі прайшло іх блізу сто тысяч чалавек, у тым ліку сялян 30%. Процэнт сялян, аднак, усё павялічываецца; спадзяюцца, што ён пазьней будзе ня менш 80%. Палітычнае значэньне надаюць выстаўцы вялікае; яно большае, чым значэньне гандлёва-эканамічнае, бо ў закардонным аддзеле ўсе экспонаты (галоўным чынам машыны) не разьлічаны на дробную гаспадарку. Сельска-гаспадарчае значэньне выстаўкі безумоўна вялікае.

***Пішыце да нас аб жыцьці-быцьці вёскі, аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Вольнага Сьцягу“ будзе і яго супрацоўнікам.***

# З газэт.

## Прызнаньне Обста.

І „левыя“ і „правыя“ партыі кінуліся цяпер „разьвязываць“ беларускае пытаньне. У тыя нумары нашае газэты мы ўжо далі „букет“ галасоў польскіх газэт аб гэтай справе. Цяпер да хору правых людаедзкіх выступленьняў далучыўся голас обстаўскае газэты „Dzien. Wil.“

Новага Обст мала дадаў, але затое выявіў сваю неабмяжованую нічым „фантазію“, уласьцівую алькаголікам, калі дапіваюцца да белае гарачкі і „ловяць чарцянят“, Вось для характэрыстыкі, маленькая пробка гэтае фантазіі“:

> З доказамі ў руках можам давясьці, што большасьць нашых „правадыроў беларускага руху“—родам з губэрняў маскоўскай, тульскай, разанскай ці пермскай...

А ну, пане Обсьце, дакажы!? Мо' хоць аднаго—двух „вывядзі на чыстую ваду“? Запраўды, няхай маскалі ня ўкрываюцца пад беларускім імем... Ня бойся: напішы, хто, што, дзе і калі? А то, калі гэтага ня зробіш, дык, дальбог, і твае чытачы пачнуць урэшце над табой сьмяяцца, як ужо даўно сьмяюцца ўсе цьвярозыя людзі!

Усё-ж сярод штодзеннай обстаўскай зьвягі і лжы мы з вялікім зьдзіўленьнем прачыталі ў стацьці „Potrzeby Kresowe“, надрукаванай у ягонай газэце, *адну праўду*,—бадай ці ня першую, якую яму давялося сказаць у сваім жыцьці, гэтак „заслужоным“ для „ойчызны“ (толькі невядома: для польскай, ці нямецкай?). Кажучы аб „недамаганьнях крэсаў“, аўтар сказанае стацьці гавора даслоўна:

> „Зусім згаджаемся з думкай „Gazety Porannej“, якая кажа, што нельга ўсе недамаганьні ўскладаць на адказнасьць крэсавых урадоўцаў. Справядліва: бо большасьць іх, асабліва калі гутарка йдзе аб ніжэйшых агентах, выпаўняе толькі *інструкцыі, якія атрымлівае ад свайго начальства*“.

Мы зумысьля падчыркнулі апошнія словы, бо яны лішні раз даводзяць нават сьляпым і глухім, што ўвесь *уціск беларускага насяленьня—гэта сьвядомая, пляновая работа, кіраваная з Варшавы.* Раней гэтай работай кіраваў „сам“ пан Пілсудскі, і „Dzien. Wil.“ наракае на яго, што *мала ціснуў*. Обст кліча свой „родны“ ўрад зьмяніць палітычны курс так, каб беларусы нават і крычаць не маглі, калі іх душаць...

Цікава ўсё-ж такі, якія йшчэ новыя скорпіоны могуць выдумаць на беларусаў паны Вітасы, Гломбінскія і Кернікі, каб „перагнаць“ „самога“ пана Пілсудскага?...



**Вольскі.** (Дастаець грошы для пасыльнага). Дай пасыльнаму. Тушы ў сябе лямпу і кладзіся спаць. Панна Марыня сьпіць?

**Слуга.** Сьпяць, паночку.

**Вольскі.** Ідзі.

**Слуга.** Дабранач, пане!

**Вольскі.** Дабранач! (Слуга пайшоў).

ЗЬЯВА VI.

**Вольскі.**—нэрвова хапаецца за тэлеграму.

Гэта ад Казі... Дай бог, каб усё было добра. Ах! Як расхадзіліся за гэты час нэрвы... (Чытае, бялее, апускае рукі, схіляе галаву, маўчыць у атупеньні). О божа мой, божа мой... (Сударжна плача, ізноў чытае, праціраючы вочы ад сьлёз). „Казя забіт матросамі. Маемасьць выпілем. Колегі“. О божа мой, божа мой! За што? За што? Як я скажу Марыньцы? Як я скажу?.. Казя мой! Казя мой! Казя мой! Сын мой дарагі!.. (Ламае рукі, ірвець валасы, плача, кінуўшыся галавою на стол).

ЗЬЯВА VII.

Прыбягае **слуга**.

**Слуга.** Пане! пане, Салдаты бродзяць ля дому. Тушыце барджэй лямпу.

**Вольскі.** Што? Якія салдаты? Якія матросы? Ня ўсё роўна? Жыцьцё—вечнае змаганьне... Казя напаіў грунт пад новую эпоху...

**Слуга.** (Са страхам). Паночку даражэнькі! Тушыце-ж вы лямпу! Што гэта вы кажаце? Чуеце, які шум?

**Вольскі.** Хай шумяць хвалі жыцьця... Усё роўна...

**Слуга.** Паночку! што гэта вам? Гэта-ж ня ўсё роўна: сьвятло скрозь вакеньніцы можна ўбачыць. Я патушу лямпу. (Тушыць).

**Вольскі.** Сьвятла ўжо няма. Цёмна. Дзе мая Марынька?

**Слуга.** Не, пане, паненку пакуль што ня трэба пужаць. Хай сьпяць. Калі будзе трэба, абудзім... А вось можа дасьцё мне і Йвану якую бронь. П'яныя там, кацапы, лаюцца, бушуюць...

**Вольскі.** Якую бронь? Нічога няма. Няма чаго й грабіць.

**Слуга.** Можа пан левальверт ці што схаваўшы? Лепей аддайце нам, бо ў вас калі знойдуць—не даруюць.

**Вольскі.** Ідзі ты спаць. Пакінь мяне аднаго... Дзе мая Марынька?

(Раздаецца страшны ўдар у парадныя дзьверы. Голас: „Адчыняй, чортаў буржуй!“ Вольскі чыркае серчык, дастае левальвэр, аглядаець, ці з набоем, тады йзноў хавае. Ідзець адчыняць дзьверы).

**Слуга.** Я пайду паненцы скажу... (Пабег).

ЗЬЯВА VIII.

**Вольскі** і **салдаты** (за дзьвярмі).

**Вольскі.** Што вам трэба?

**Ванька.** *Зьдзеся хто жывёть?*

**Вольскі.** Тут жыве садавод Вольскі. Каго вам трэба?

**Мацяйчук.** А вось нам яказ пана й трэба. Давай, пан, самагону! Ато дрэнна будзе!

**Санька.** Што там цэрамоніцца? Ванька, пры! Мацяйчук, чаму нас твой пан ня пускае, га! (На вуліцы бязупынку галосіць гармонік і быццам тупае нешта шматногае).

**Вольскі.** Я сам адчыню; нашто ламаць дзьверы? Што вам трэба? (Адчыняе).

**Мацяйчук.** (П'яны). Пан хай не баіцца... Мы нічога. Мы выпілі самагону, але мы нічога... Гэта Ванька, а гэта Санька... Разанскія, халеры. Вядзі, кажуць, нас к пану! Ты, кажуць, тутэйшы, ты ведаеш. А мне што? Мой бацька ў панскім садзе працаваў, кроў на градкі ліў...

**Ванька.** Напіліся буржуі нашай кровушкі! Праклятыя!

**Санька.** (Вольскаму). Аружжа маеш? (Сьвеціць на яго электр. фанарыкам).

**Вольскі.** Бярыце, што вам трэба, і выхадзіце вон.

**Ванька.** А, то вось які пан! Бяры яго!

ЗЬЯВА IX.

**Марыня** (выбягае і кідаецца к бацьку). **Слуга.**

**Марыня.** Татачка, родненькі, татачка! (Цягнець яго).

**Вольскі.** Супакойся, Марынька.

**Санька.** (Сьвеціць на дзяўчыну). А, мамзэля! (Хоча схапіць).

**Вольскі.** Ня сьмей, грубіян!

**Марыня.** Таварышы! Мы... я... калі ласка... не чапайце! Татачка, аддай ім усё, што яны хочуць.

**Ванька.** Мы ў акопах бяз хлеба дохнем, вошы кормім, а вы тут... А, буржуі! Хлопцы, усё народнае! Бяры!..

**Мацяйчук.** Усё народнае. Бяры, Ванька, Санька! Я тутэйшы! Я дазваляю! (Салдаты разьбягаюцца па ўсіх пакоях, хапаючы што папала).

**Слуга.** Пан! Паненка! Там улезьлі з задніх дзьвярэй, хапаюць усё, б'юць... (чуваць звон бітага посуду).

**Марыня.** Татачка! Хай сабе, хай сабе! Толькі выйдзем, схаваемся...

**Вольскі.** Марынька мая! Казя наш... Казя... ня жыве... Вось тэлеграма...

**Марыня.** Ай, ай, ай! (Млее).

У цямноце шум, гвалт, гармонік, на вуліцы песьня:

Мы на страх усім буржуям
На ўвесь сьвет пажар раздуем! У-ха!

**Псэўдонім.**

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### ХРОНІКА.

30 верасьня а 4 гадзіне па паўдні ў памяшканьні Беларускай Школьнай Рады (Віленская 12, п. 6) адбудзецца чарговы Агульны Сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні. Парадак дня: 1) Плян далейшае працы Камітэту; 2) Даклад старшыні Беларускага Пасольскага Клюбу аб працы беларускіх паслоў у Польскім Сойме; 3) Бягучыя справы.

Беларускія арганізацыі, якія яшчэ не вызначалі сваіх прадстаўнікоў у Камітэт, павінны дэлегаваць па два прадстаўнікі з адпаведнымі мандатамі.

22 верасьня Акружны Суд у Навагрудку разглядаў справу гр. Курчэйкі, які вінаваціўся па 129 арт. К. К. за антыдзяржаўную агітацыю ў часе выбараў у Сойм і Сэнат. З прычыны амнэстыі справа ўморана.

У колах урадовых паважна бярэцца пад увагу праект замены польскае дэлегатуры ў Вільні на Віленскае ваяводзтва. У зьвязку з гэтым ходзяць чуткі аб назначэньні віленскім ваяводай пасла Зьвежынскага, быўш. рэдактара эндэцкай газэты „Dziennik Wileński“.

5 кастрычніка ў Вільні адбудзецца зьезд войтаў і солтысаў, які склікае павятовы аддзел Віленска-Троцкага Сойміку. На зьезьдзе будзе абгаварвацца буджэт на 1924 г.

## Весткі з вёскі.

### М-ка Саколка.

У сераду, 12 верасьня, у нас адбыўся мітынг, на якім зрабіў даклад пасол Валошын. Доўга мы чакалі, калі да нас загляне хтонебудзь з паслоў, бо вельмі-ж нам—беларусам тут дрэнна жывецца; да гэтага часу ў нашым павеце няма ніводнай беларускай школы, дзякуючы „шчырай“ працы паноў і падпанкаў з-пад Варшавы, якія ў 1919 і 1920 г. ішлі да нас з салодкімі абяцанкамі і лёзунгам „роўны з роўным і вольны з вольным“.

Пасол Валошын расказаў нам, што трудна спадзявацца пры сучасным польскім урадзе на спаўненьне гэтых абяцанак. Школаў беларускіх не адчыняюць, усе дамаганьні беларускіх паслоў у Сойме аб беларускіх школах адкінуты і перасланы ў камісіі, дзе яны будуць ляжаць да сканчэньня панскай улады; так сама і з зямельнай рэформай, заместа якой мы маем асаднікаў. Пасол заклікаў да аб'яднаньня ўсіх працоўных беларусаў для абароны сваіх правоў, бо толькі дружнаю грамадою мы можам абараніцца ад захланнасьці паноў.

Народ гучнымі вокляскамі вітаў свайго пасла і прасіў прыяжджаць часьцей, каб народ мог перад кім вылажыць свае скаргі і крыўды.

**Сакольскі.**

### Пацаўская гміна, Слонімскага пав.

У нас нядаўна зьмянілі старога войта і пісара, і беларускія газэты сталі атрымлівацца крыху лепш. Праўда, і цяпер яшчэ ў нашай гміне парадак у выдачы газэтаў дужа дрэнны. Прыходзіць, напр., наша газэта, яе адштампլююць і кінуць на вакно і тут яна церпіць не малы зьдзек з боку цёмных асобаў, якія часта вырываюць цэлыя артыкулы, а то і зусім падпішчык яе ня ўгледзіць. Вельмі балюча робіцца на сэрцы, калі дазнаешся, што знаходзяцца гэткія людзі і сярод беларусаў. Я сам бачыў, як солтыс Яварскай Руды забраў з гміны ўсе газэты нават не паглядзеўшы на іх адрэсы. Такім чынам шмат нумароў прападае, падпішчыкі пазбаўляюцца сваей роднай газэты, якая зьяўляецца пуцяводнай зоркай у нашым жыцьці.

Дрэнна яшчэ й тое, што шмат хто нават з нашых падпішчыкаў і сталых чытачоў беларускай газэты не навучыліся дагэтуль правільна чытаць пабеларуску, выгаворваючы „т“ заместа „ц“, а „дз“ чытаюць разьдзельна „д“ і „з“. Сорамна, што да гэтага часу ня могуць пазбавіцца ад расейшчыны. Пара ўжо ўмець чытаць сваё друкаванае слова!

**Н. Жальба.**

## УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### З Менску.

**Прадажа мясных прадуктаў сябрам коопэратыву.** Цэнтральны Рабочы Коопэратыў зрабіў з Беларускім сельска-прамысловым саюзам умову, паводле якой сябры коопэратыву будуць атрымоўваць з крам Белсельпрамсаюзу мясныя прадукты на 10 процантаў ніжэй рынчаных.

**Арганізацыя зьліўных малочных пунктаў.** Белсельпрамсаюз арганізаваў у бліжэйшых да горадаў вёсках некалькі зьліўных малочных пунктаў, з якіх ужо кожны тыдзень прывозіцца ў прадуктовую краму Белсельпрамсаюзу да 1000 кварт малака.

**К аднаўленьню г. Барысава.** Згодна з пастановай Рады Народных камісараў Беларусі арганізаваны Камітэт дзеля кіраўніцтва працаю па аднаўленьню г. Барысава. Сябры камітэту выехалі ў Барысаў дзеля азнаямленьня з становішчам гораду на мейсцы, дзеля распрацоўкі пляну аднаўленьня гораду і выбару мейсца для пабудоўкі цэнтра гораду.

Камісіі даручана арганізаваць фонд для аднаўленьня Барысава і прыцягнуць прыватных асоб к удзелу ў гэтай справе.

**Беларускія грамафонныя пласьцінкі.** Хор Беларускага Дзяржаўнага Акадэмічнага тэатру, які цяпер знаходзіцца ў Маскве, ужо напяяў на грамафонныя пласьцінкі некалькі №№, як напр. „Адвеку мы спалі“, „Гэй сябры ўдалыя“, два дуэты з музыкальн. драмы „На Купальле“ пад акамп. квартэту і інш. Хор яшчэ прапяе народныя песьні, якія і будуць запісаны.

Каля 15 верасьня пласьцінкі будуць ў Менску.

**К зьезду патолёгаў.** У Петраградзе адбыўся зьезд патолёгаў, на які ад Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту дэлегаваны праф. патолёгічнай анатоміі І. Т. Цітаў.

### Узьдзенская вол., Мен. пав.

Нядаўна ў Узьдзенскай валасьці адбылося злучэньне сельска-гаспадарчага таварыства „Лепшая Доля“ з Узьдзенскім ЕПО „Сіла“. Сельская-гаспадарка зрабіла гэты крок дзеля ўмацаваньня і росквіту коопэрацыі. Злучэньне афармлена на нядаўнім коопэрацыйным зьезьдзе пры шырокім учасьці ўсіх зацікаўленых старон. Аб'яднаныя коопэратывы прынялі назву Узьдзенскага Інтэгральнага Т-ва „Ядыная Коопэрацыя“.

Вынікі аб'яднаньня ўжо ёсьць: пашырыліся срэдствы, палепшыўся склад праўленьня і г. д.

Зьвязаліся дзьве буйныя арганізацыі ў адно моцнае аб'яднаньне, якое будзе высока трымаць сьцяг коопэрацыі і яе будаўніцтва.

**М. В.**

# Тэатр і мастацтва.

## „Пан Міністар“,

новая п'еса п. Аляхновіча.

У нядзелю, 17 верасьня, ў залі Беларускае Драматычнае Майстроўні адбылося першае прадстаўленьне новага твору вядомага нашага драматурга Ф. Аляхновіча.

Нова п'еса Аляхновіча—ў драматычнай форме як быццам „палітычная сатыра“ на стварыўшыяся калісь ў Менску, як можна думаць, у часах нямецкае акупацыі, беларускія стасункі,—пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі...

Дзеля таго „палітычная сатыра“, шмат запазьнілася, і бье ня толькі, гэтак кажучы, па ляжачаму, але і ўжо па мертваму... Дзеля таго, „сатыра“ мае толькі гістарычны характар, кажучы інакш,—п'еса павінна мець пэўную артыстычную ці ідэйную вартасьць. Мы ня будзем тутака падрабязна разьбіраць меры гэтае вартасьці новай п'есы, скажам аб ёй толькі некулькі слоў.

Фабуля п'есы вельмі простая.

Пан Пупкін, відаць, з расейскіх мясцовых чыноўнікаў-абрусіцеляў, шмат пажылы, маючы пэўны дастатак чалавек, рашыў, карыстаючыся з новай фазы беларускага нацыянальнага руху і падшываючыся пад беларуса зрабіць сабе на гэтым палітычную кар'еру, выставіўшы сваю кандыдатуру ў міністры...

П'еса пачынаецца як раз на тым, што Пупкін толькі што закончыў пісаньне сваей біографіі, якую хоча надрукаваць у ўплывовай беларускай газэце.

Дзеля гэтага ён запрашае да сябе газэтнага працаўніка, падкупляе яго ласку пачастункам і грашмі...

„Газэтчыкі“ пьюць, ядуць, бяруць грошы, але... газэта, заместа „аўтобіографіі“ Пупкіна, друкуе аб ім праўду...

І—ўжо зусім пэўны свайго пасьпеху—Пупкін праваліваецца са сваей кандыдатурай...

Раўналежна з гэтай лініяй „палітычнай“ кар'еры Пупкіна разьвіваецца ў п'есе і гэтак кажучы, „сэрцовая“ кар'ера „пана Міністра“.

Пупкін, які мае ўжо ў сябе пажылую „гаспадыню“ прывез сабе з вёскі маладзенькую пекную, нічога йшчэ не разумеючую дзяўчынку Любу, для якой назваўся „дядзяй“, якую патрошку хоча прыўчыць да таго, каб мець у ёй „асалоду“ свайго „міністэрскага“ жыцьця...

Але і гэтая „кар'ера“ Пупкіна абрываецца такім самым правалам, і тут заместа гэтай „аўтобіографіі“ яго застаецца „надрукована“ нешта іншае...

Запраўднае маладое беларускае жыцьцё трыумфуе над старым варожым, падшыўшымся „эрзацам“. Няведаючая жыцьця, але маючая добрае чуцьцё, спрытная Любка хутка знаходзе сабе пару ў асобе маладога беларускага вучыцеля, і гэтая маладая пара, лёгка перамагаючы захацеўшую зажыць чужы век чужую, варожую, прыкінуўшуюся прыхільнаю, падшыўшуюся старасьць, дабівае Пупкіна да канца...

Пупкін астаецца, як быў—пры сваей „единой і недѣлимой Россіи“ і з гэткай самай „адзінай і недзялімай“... старай кухаркай Мартай...

Помысл п'есы някепскі.

Але трэба сказаць, што выкананьне яго зашмат, гэтак кажучы, элемэнтарнае, што робіць з п'есы падабенства кароткага ледзь-накіданага фарсу... Але фарс той канчаецца, з аднаго боку, гэтак кажучы, ў лягеры старасьці—нейкімі трагічнымі нотамі—пагрозамі „вярнуцца назад“..., хваробай Пупкіна..., а з другога боку —у лягеры моладзі—гарачым поўным запраўднага пафосу і энтузыязму нацыянальнага адраджэньня монолёгам вучыцеля, які выражае паважную думку ўсяе п'есы... І з гэтай элемэнтарнасьці ізноў вынікае, што запраўднага зьместу палітычнае сатыры п'еса ня мае. Ані якога „фону“ гістарычнага, ані паняцьця аб тым, што і як робіцца *там*, дзе вырашаюцца кандыдатуры міністраў, п'еса не дае...

З пункту гледжаньня гістарычнай праўды, можа, трэба было-б дадаць, што у часы нямецкае окупацыі, у часы тагачаснае „міністэрскае чехарды“, калі ўжыць выраз з расейскага палітычнага жыцьця, бывала якраз наадварот таму, што паказана ў п'есе...

Бывала, што кандыдатура гэткіх Пупкіных зусім не правалівалася, але трыумфавала...

За гэта гавора і кідаўшаяся ў вочы пэўная „партрэтнасьць“ сатыры...

Але трэба сказаць, што гэтая „партрэтнасьць“, якая паважаным аўтарам, іграўшым ролю Пупкіна, падчырківалася нават у грыме, ня толькі не дадае нічога добрага да артыстычнай вартасьці п'есы, але з'яўляецца нават забароненай добрым мастацкім смакам, а можа і добрымі літэратурнымі звычаямі...

Гралі ня кепска, але трэба йшчэ сыграцца, каб наагул не чакаць суфлёра, чым грашыў нават сам аўтар, ён жа і герой „трагі-фарсу“ Пупкін...

---

Лепей за ўсіх кажа аб бязсільлі гэтага напалову мёртвага ворага сам аўтар праз вусны сваіх герояў.

І ці-ж не зьяўляецца запраўдным страляньнем з пушак па вераб'ям апошні гарачы монолёг Міколы Сьветляка проці Пупкіна, запраўды „топчучы, дратуючы“ гэтую „непатрэбную сухую траву“...

„Але, пане Пупкін, наш многапакутны народ ускалыхнуўся пасьля векавога сну і гэты народ не дзіця; ён ведае, хто можа быць яго правадыром!

А вы, „тоже“ беларус сёньняшняга дня захацелі ўзьлезьці на найвышэйшую ступеню і схваціць у свае рукі народную справу!...

А тады, калі нас сьмехам аплёўвалі, калі нас за нашу беларускасьць у турмы садзілі, калі ўсялякі зьдзек над намі рабілі—дзе вы тады былі? Дзе вы былі, пане Пупкін, калі мы хадзілі галодныя ды абадраныя, з зазьдрасьцю паглядаючы на багатыя сталы іншых. А цяпер, калі ёсьць магчымасьць пры нашым полымі зварыць і сваю кашу, вы прыходзіце да нас і вялікадушна ахвяроўваеце нам сваю асобу...—спазьніліся, пане Пупкін... Тады вы былі глухія і сьляпыя. Цяпер народ наш будзе глухі і сьляпы на ваш крык, і наша адраджэнская хваля пройдзе міма нас, або—праз вас: народ стопча, здратуе вас, як непатрэбную сухую траву. Спазьніліся, пане Пупкін“!

Яшчэ лепей аб бязсільлі гэтага „ворага“ гавора аўтар вуснамі самога Пупкіна,—у апошняй зьяве, калі ён застаецца адзін са сваей „едінай і неделімай“... Мартай...—

„Вось я ўпаў, ляжу, ідзеце цераз мяне, праз мой труп, дратуйце мяне! Я—бязьсільны, сьмейцеся з мяне. Ну, сьмейцеся, зьдзекуйцеся, бо я ўжо не магу бараніцца, бо я стары, слабы, бо я адзін“...

З гэтага відаць, што мастацкае пачуцьцё аўтора, можа нават паміма пэўнага гатунку, гэтак кажучы, „адцягіваючай“ увагу ад сучаснасьці „тэндэнцыі“ п'есы, дае праўдзівыя разьмеры тым варожым сілам, якія ўцелесьняе аўтар у асобах сваіх герояў...

Бо інačай запраўды было-б дзіўным... гэтае запрашэньне беларускай моладзі—„таптаць і дратаваць непатрэбную сухую траву“—у тым заборы, у тыя часы, дзе і калі яе самую—жывыя, маладыя ўсходы, яе—зялёную рунь беларускіх палёў „топча і дратуе“, як „сухую траву“ не Пупкін, а нехта другі, памацней...

**С.**

## Курс на грошы.

**Варшава, 26 Верасьня.**

(Афіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры | 308.000 |
| Нямецкая марка | 0.00.24 |
| Фунты штэрл. | 1.415.000 |
| Франкі франц. | 19.325 |
| Франкі бэльгійск. | — |
| 10 руб. золатам | — |
| Польскі злоты | 45.000 |

Рэдактар-Выдавец Я. Лагіновіч.

Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.